ЛЮДИ, КОТОРЫЕ НАС УДИВИЛИ В 2017-М

# Маргарита ЛЕВЧУК: «И сопрано едят на ночь мясо»



По каналу "Культура" в прямой трансляции из Большого зала Московской консерватории накануне Нового года мы увидели выступление молодой белорусской певицы **Маргариты ЛЕВЧУК.** Творческая звездочка 27-летней артистки только-только начинает разгораться. На международных вокальных конкурсах солистка Большого театра Республики Беларусь еще не дотягивает до гран-при, но неизменно получает призы зрительских симпатий: она безмерно очаровательна, магически артистична. В популярном телевизионном проекте "Большая опера" наша Маргарита в трудной борьбе дошла до финала, и потому ее завтрашний дебют на высокой концертной сцене с лучшими вокалистами современности – серьезная заявка на большую оперную карьеру.

**– С телеэкрана вы откровенно признались телезрителям "Большой оперы", что из-за конкурса заработали стойкую бессонницу. Стоит ли вообще участвовать в конкурсах, отбирающих здоровье?**

– Конкурсов бояться – на сцену не ходить. Волнения сопровождают артиста всю жизнь. Первую прививку от стресса я получила еще в 9 лет. Тогда меня на областной конкурс готовили всей деревней. И я победила! А Минск не пропустил: неправильный репертуар! Исполнила песню, которую кто-то из знакомых просто записал на кассету с телевизора. Я выучила на слух. Но авторов-то никто найти так и не смог. И у меня случился такой стресс! Я горько плакала…

**– Зато профессиональная карьера складывается теперь довольно удачно: три месяца подряд вы не сходили с телеэкранов.**

– Чтобы попасть на конкурс "Большая опера", пришлось для начала побороться с 900 (!) конкурентами. А в Москву я приехала практически больная, потому что в то время в родном Большом театре так плотно репетировала премьеру "Травиаты", что сорвала голос. Он сел напрочь, я ничего не могла сделать. Решила: буду брать на кастинге хорошим настроением. Спела из последних сил, но жюри не проведешь: "Слышно, что вы перепели". Но все-таки меня в конкурс пригласили, зачислили.

**– Я видела ваши репетиции в Минске с режиссером Жагарсом – он был беспощаден.**

– Потом всегда подходил и извинялся. Но мне, напротив, очень нравилась его требовательность к драматической игре. Пусть будет больше прессинга на репетиции – лучше будет результат на сцене.

**– Да и у вас хороший возрастной запас – вы можете учиться и учиться.**

– Главное – не отчаиваться. Вот как я стала солисткой Большого театра? Когда набирали стажеров в труппу, я почему-то долго тянула с заявлением. И дотянула! Наконец позвонила и услышала: "А нам сопрано уже не нужны. Приходите в следующем году!"

**– Классическое "Приходите завтра"?**

– Именно. В это время я заканчивала 5-й курс академии. Что делать? Подумала: ладно, буду отрабатывать распределение как обычный молодой специалист.

**– А куда идет большинство певиц, если не попадает в театр?**

– Ммм… В декретный отпуск! Певиц с высоким голосом действительно очень много, их больше всех академия выпускает. И я пошла бы куда глаза глядят, но дирижер Большого театра Олег Лесун – спасибо ему вечное – настоял: "Послушайте девочку, что вам жалко, что ли?" Потом, как мне рассказывали, все ему говорили спасибо. Меня зачислили стажером и в тот же день дали роль Барбарины в "Свадьбе Фигаро" Моцарта. Оказывается, приглашенный из Москвы режиссер-постановщик этой оперы настоятельно просил: "Мне нужна молоденькая и щуплая. Ищите!".

**– Да, вы тростиночка, вам надо поправиться.**

– Я бы с радостью, мне говорят об этом последние лет восемь-девять. Особенно волнуется моя мама, но толще от этих разговоров я не становлюсь. Я хорошо ем, даже порой выкладываю в инстаграм для поклонников «портрет» своего ужина: вот видите, мясо ем перед сном! А вес все равно 47 килограммов. Но петь сил хватает. Хотя, если конкурс, сгораю эмоционально.

**– Интересно, какая у вас самая высокая нота?**

– Если хорошо распеться, то си бемоль третьей октавы, и она нигде не нужна. Но мне преподаватель всегда так говорила: "Если надо спеть фа третьей октавы, то в запасе у тебя должна быть еще одна нота, то есть соль". А у меня в запасе, выходит, на две ноты выше. Хотя, когда приходится исполнять партию Царицы ночи – это настоящий цирковой номер, – не без ужаса думаю: "Ну, не возьму я фа и – конец!" Такая ответственность, тем более зрители пишут: придем послушать только вас.

**– Какие планы теперь, когда вы стали финалисткой «Большой оперы»?**

– Поеду на очередное прослушивание. У артиста полжизни – прослушивания.

**– И что дальше?**

– А дальше контракт подписываешь. Или нет. Пока не подпишешь, лучше не хвастаться. Впрочем, психологически я готова к любой критике. Я даже прошу мне что-то подсказать, что сделает мое пение лучше. Я научилась трезво относиться даже к результатам конкурса. Тем более что любой конкурс – это не только призовые места, но и ангажементы. После того как в прошлом году на Рождественском конкурсе в Минске я выиграла специальный приз зрительских симпатий, немецкий режиссер Ханс-Йоахим Фрай предложил мне ангажемент на выступление в Австрии. Да с каким коллективом! С Большим симфоническим оркестром имени Чайковского под управлением маэстро Федосеева.

**– Ничего себе! Я видела фото в вашей ленте в «Фэйсбуке», но не поняла, как вы появились рядом с прославленным маэстро. И какие впечатления?**

– Прекрасные!

**– У вас – это понятно. А у выдающегося маэстро Федосеева?**

– Он меня поздравил. И выразил надежду на будущее сотрудничество, сказал, что давно не приезжал в Минск и это надо исправить.

**– И последний вопрос – о родителях. Как они справляются с внезапной славой своей дочки?**

– Они теперь известны на весь агрогородок Страдечи, а также на пол-Бреста. Телефон у них разрывается, мама со мной даже толком не может поговорить, до сих пор принимает поздравления.

**– "Народная Воля" тоже вас поздравляет, Маргарита! Ждем ваших новых творческих побед!**

**Елена МОЛОЧКО.**




АЗБУКА ОВОЩЕВОДА

## Хороший сорт – высокий урожай

***В электричке дачники расхваливали семена овощей голландской селекции. Жаль, не было времени их послушать – на следующей остановке мне нужно было выходить. Не можете ли рассказать о голландских огурцах, перцах, моркови, свекле…***

**Лилия НАЗАРЕНОК.**
*г.Молодечно.*

Сорта и гибриды огурца Маринда, Клавдия, Левина, Аннушка и другие универсальные, то есть высокоурожайные, устойчивые к болезням. Плоды маленькие, красивые, с мелкими пупырышками, хороши в засолке. Плодоносят до поздней осени.

Голландские перцы – вкусные, с толстой стенкой: желтые, красные, зеленые. Например, сорт Керала дает крупные желтые плоды. Высота растения 60 сантиметров. Куст компактный. Выращивать можно и в открытом грунте, и под пленкой. А перец Майата имеет ярко-красные плоды.

Морковь голландская дает небольшую ботву и вкусные красивые корнеплоды. Например, у сорта Форто и Миникор очень нежная мякоть. Сорт Флаккоро долго хранится, почти до июня. Корнеплоды крупные, достигают длины 28–30 сантиметров. Поэтому семена этого сорта надо высевать как можно реже.

У свеклы Детройт рубидус корнеплоды крупные, мякоть равномерной окраски без колец, вкусовые качества высокие. Семена надо сеять рано весной загущенно, укрыть укрывным материалом, а в середине мая сеянцы распикировать. Корнеплоды хорошо хранятся.

ПОВЫШАЕМ ЗНАНИЯ

## Надо знать, чем и когда удобрять

***Что нужно учитывать при расчете доз удобрений и применении различных способов их внесения?***

**Антонина НАРБУТОВА.**
*Гродно.*

Прежде всего необходимо учитывать, что в начальный период своего роста и развития растения более требовательны к питанию. Поэтому в почве в это время должно быть достаточно питательных веществ в легкодоступной форме. Например, в начальный период, когда идет рост корней, растение нуждается прежде всего в фосфоре и в меньшей степени – в азоте и калии. И если будет ощущаться недостаток фосфора, то это отразится потом на его развитии и урожае.

По мере дальнейшего развития растения, когда увеличивается наземная масса, требуется больше азота. Недостаток его в это время даже при усиленном питании позднее приводит к снижению урожая.

В период цветения и плодообразования потребность растения в азоте снижается, но возрастает поглощение фосфора и калия.

По мере уменьшения нарастания биомассы растений поступление питательных веществ уменьшается, затем и прекращается. Так в общих чертах происходит поступление питательных веществ в растение. Однако различные культуры существенно отличаются одна от другой по периодам поглощения питательных веществ. Например, огурцы более требовательны к питанию азотом в период формирования листьев, а к фосфору – перед цветением. Калий в большей степени им нужен во время плодоношения.

С учетом требований и рассчитываются дозы удобрений, а также различные способы их применения.

ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Витамины круглый год

У меня пять соток, но здесь удивительный микроклимат: плодовые деревья, овощи, лекарственные травы образуют некое «содружество». Судите сами:

* на картошке нет колорадского жука, потому что рядом растут бобы;

* клубнике на пользу соседство с фасолью, в корешках которой содержится азот;

* зеленая щетина чеснока между кустиками клубники спасает ее от вредных насекомых;

* у капусты листья широкие, чистые, потому что вредных бабочек отпугивает ее сосед сельдерей;

* на одной грядочке рядом растут сразу четыре культуры: салат, морковь, клубника и чеснок. Салат поддерживает ботву моркови, а чеснок не дает опасть листьям клубники.

Не первый год я веду наблюдения за зелеными питомцами и скрупулезно заношу их в дневник.

* Малина далеко пустила корни. Это продолжалось до тех пор, пока вдоль малинника я не пропустила чеснок и щавель.

* Под облепихой хорошо прижился лук-черемша.

* Посадила рядом с капустой кукурузу – и вот чудо: у капусты завязь идет не по одному, а по два кочана. Можно рядом и подсолнух посадить…

* Наблюдаю за бордюром из лесной земляники. Ягоды крупнее лесных, сочные и спеют просто на глазах.

* Из леса принесла зверобой, который быстро прижился в огороде.

* Заячья капустка – это же кладезь витаминов! Душица чистит кровь. Черноплодка снижает давление, но сгущает кровь. Три ягодки лимонника повышают работоспособность на шесть часов, его листья и веточки лечат печень и диабет. Перечная мята способствует снятию спазмов. Цветы боярышника расширяют сосуды. Даже листья красных роз и шиповника не только для красоты – они благотворно действуют на сердечно-сосудистую систему. А цветы мать-и-мачехи – на поджелудочную железу.

В меню у меня витамины круглый год. Весной, когда начинаются заготовки, выручают салаты из ботвы репы, редьки, моркови, свеклы, куда для нежности добавляют мокрицу, а позже укроп, петрушку, чеснок. Летом – все, что дает сад и огород. И всегда чай из двадцати семи трав!

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Гуси: что мы о них знаем?

Гуси считаются одной из самых ценных пород домашних птиц, потому что в них все полезно: и пух, и перья, и мясо, и жир, и потроха. А потому необходимо обращать внимание на разведение гусей, тем более что уход за ними требуется минимальный. Но если поблизости нет реки или проточного пруда, то развести гусей не удастся.

Оставаясь без присмотра, гуси могут принести немало вреда, поэтому разводить гусей следует в возможно большом количестве, чтобы ожидаемая от них выгода превысила издержки.

Важно, чтобы гуси были раннего выводка, зимнего. Гуси, выведенные позднее, редко переносят болезни летом в жару. Помещения для гусей должны быть отапливаемые, хорошо проветриваться. Подметать их нужно два раза в день, пол часто посыпать сухим и чистым песком. Гуси должны быть весь день на дворе и только ночью – в теплом помещении.



ШАХМАТЫ

## З зімовымі святамі!

Паколькі Новы год сімвалізуе нешта чароўнае і незвычайнае, на гэты раз пачнём з задачы, "сюжэт" якой звязаны з самай, бадай, навагодняй лічбай – 12 (!). Заданне здаецца складаным толькі на першы погляд.

**Белыя:** Крa4, Лg2, Сg1, Сh1 (4).

**Чорныя:** Крf3, Фc8, Лe2, Лe6, Сc3, Сf5, Кd3, Кg4, пп. c4, c7, d2, d6, e5, f4, g3 (15).

**Мат у 12 хадоў.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі (***220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а***) або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Куды дадаць караля?

Наступная задача – крыху жартоўная. На дошцы тры белыя фігуры: Крc3, Фg4, Сg1. На якія палі трэба дадаць чорнага караля, каб: а) адразу атрымаўся пат; б) адразу атрымаўся мат; в) можна было паставіць мат у 1 ход?

## Перамогі маладых

У мінулы раз мы згадвалі выступленні беларускіх шахматыстаў на чэмпіянаце свету сярод удзельнікаў да 20 гадоў у Італіі. Нагадаем, што лепшыя вынікі з нашых суайчыннікаў паказалі міжнародныя майстры Міхаіл Нікіценка (27-е месца) і Вольга Бадэлька (12-е). А вось прыклады іх пераможных партый з гэтага спаборніцтва.

***Міхаіл Нікіценка – Томаш Шоша***

1.e4 e5 2.Кf3 Кc6 3.Сb5 a6 4.Сa4 d6 5.d4 ed 6.К:d4 Сd7 7.К:c6 С:c6 8.С:c6+ bc 9.0-0 Сe7 10.e5 de 11.Фg4 Кf6 12.Ф:g7 Лg8 13.Фh6 Фd7 14.f3 0-0-0 15.Фd2 Фh3 16.Фe2 Кh5 17.Сe3 Кf4 18.С:f4 ef 19.Крh1 Фh4 20.Кd2 Сc5 21.Кe4 Сb6 22.Лad1 Лg6 23.Ф:a6+ Крb8 24.Л:d8+ Ф:d8 25.b4 Фc8 26.Ф:c8+ Кр:c8 27.Лd1 f5 28.Кc5 С:c5 29.bc Лe6 30.h3 Лe2 31.c4 Л:a2 32.Лd4 Лa5 33.Л:f4 Л:c5 34.Лh4 Крb7 35.Крg1 Крb6 36.Крf2 Крa5 37.Л:h7 Л:c4 38.Л:c7 f4 39.h4 Крb5 40.Лb7+ Крc5 41.Лd7 Лa4 42.Лf7 Крd5 43.Лf6 c5 44.Лf5+ Крd6 45.h5 Лa2+ 46.Крg1 c4 47.Л:f4 Крd5 48.Лf8 Крd4 49.Лd8+ Крe3 50.Лc8 Крd3 51.h6 Лa1+ 52.Крf2 Лh1 53.Лh8 c3 54.h7 Крc2 55.g4 Крc1 56.Лc8 Л:h7 57.Л:c3+ Крd2 58.Лc8, 1:0.

***Вольга Бадэлька – Габрыэла Антава***

1.d4 Кf6 2.c4 e6 3.Кc3 Сb4 4.e3 c5 5.Кge2 b6 6.a3 Вa5 7.Сd2 0-0 8.Лb1 Кa6 9.Кg3 Сb7 10.Сd3 cd 11.ed С:c3 12.bc d5 13.Фe2 dc 14.С:c4 Кc7 15.0-0 Фd6 16.Лb3 b5 17.f3 a6 18.Сd3 Сd5 19.Лb4 h6 20.Кe4 Фe7 21.Фf2 Кce8 22.a4 ba 23.Л:a4 К:e4 24.fe Сc6 25.Лa5 Фb7 26.c4 Кf6 27.d5 ed 28.ed Сd7 29.Сc3 Кg4 30.Фd4 f6 31.Фe4 f5 32.Фd4 Лf7 33.d6 Лe8 34.Лe1 Л:e1+ 35.С:e1 f4 36.Фe4 Ф:e4 37.С:e4 Сe6 38.c5 Кf6 39.Сg6 Лd7 40.Л:a6, 1:0.

## Турнірная хроніка

Масавымі выдаліся чэмпіянаты Еўропы па хуткіх шахматах (рапідзе) і бліцы ў польскіх Катавіцах. У бліцы (1091 удзельнік) залаты медаль заваяваў беларускі гросмайстар **Сяргей Жыгалка** – 18 ачкоў з 22. **Аляксей Аляксандраў** на 8-м месцы. У першую сотню таксама трапілі: 22. **Кірыл Ступак**; 64. **Валерый Казакоўскі**; 83. **Уладзіслаў Кавалёў**. У рапідзе (1181 удзельнік) Сяргей Жыгалка падзяліў 2–6-е месцы (па дадатковых паказчыках – чацвёрты), добра выступілі таксама Уладзіслаў Кавалёў (28-е месца), Аляксей Фёдараў (37-е), Аляксей Аляксандраў (38-е), Міхаіл Нікіценка (44-е).

У Індыі прайшла Сусветная алімпіяда сярод шахматыстаў да 16 гадоў. Беларусь, выйграўшы пяць матчаў і прайграўшы чатыры (у тым ліку ў апошнім туры Ірану – 0:4), заняла 12-е месца з 30 каманд. За нашу зборную выступалі **Вячаслаў Зарубіцкі** (4 перамогі, 2 пройгрышы, 3 нічыі), **Вольга Бадэлька** (+5-2=2), **Максім Іваннікаў** (+3-3=3) і **Арсень Котаў** (+3-5=1). Вось адна з перамог беларусаў.

***Максім Іваннікаў – Крыпа Адхікары***

1.Кf3 d5 2.g3 c5 3.Сg2 Кc6 4.0-0 Кf6 5.d3 e6 6.Кbd2 Сd6 7.e4 0-0 8.Фe2 Лe8 9.e5 К:e5 10.К:e5 Фc7 11.f4 b6 12.c4 Сb7 13.b3 Лad8 14.Сb2 h6 15.Лae1 a6 16.g4 Кh7 17.g5 hg 18.fg К:g5 19.h4 f6 20.hg fe 21.g6 Лf8 22.Фh5 Лf6 23.Фh7+ Крf8 24.Фh8+ Крe7 25.Ф:g7+ Крe8 26.Ф:f6 Фe7 27.Ф:e7+ С:e7 28.С:e5 Крd7 29.Лf7 Лe8 30.Сf6 Крd6 31.С:e7+ Л:e7 32.Л:e7 Кр:e7 33.Лf1 Крd6 34.g7 b5 35.g8Ф bc 36.Фb8+ Крc6 37.К:c4, 1:0.

У Мінску прайшоў першы этап чэмпіянату Беларусі. У мужчынскім турніры сярод 63 удзельнікаў былі 2 гросмайстры, 2 жаночыя гросмайстры, 2 міжнародныя майстры і 5 майстроў ФІДЭ. Перамог **Віталь Мерыбанаў**, 2–3-е месцы падзялілі **Мікіта Гаршкоў** і **Ягор Філіпец**, на 4–6-м месцах – **Яўген Падольчанка, Ігар Люцко і Павел Ламака**. У жаночым турніры выступалі 26 шахматыстак, у тым ліку адзін майстар ФІДЭ. Перамагла **Наталля Кусянкова**, 2–4-е месцы падзялілі **Марыя Калядзіч**, **Вольга Малацілава** і **Кацярына Бейненсон**.

## Не толькі апельсіны…

Каралеўская шахматная федэрацыя Марока арганізавала чацвёрты конкурс складання, удзел у якім могуць браць і беларускія кампазітары. Двухходоўкі неабходна дасылаць на адрас ***ubenjelloun@outlook.fr***, трохходоўкі, шматходоўкі, эцюды і задачы на зваротны мат – ***vidadi_zamanov@mail.ru***, задачы на кааператыўны мат (падраздзелы: у два, тры і шмат ходоў) – ***jamalelbaz6@gmail.com***. Творы трэба дасылаць у фармаце PDF. Апошні тэрмін прысылкі – 30 верасня 2018 года.

## Праверце рашэнні

Задача М.Храмцэвіча ад 5 снежня рашаецца: **1.Фa2.**

Першымі правільна адказалі **Ігар Ананіч**, **Васіль Жуковіч**, **Сяргей Цяльпук**, **Сяргей Калянковіч**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, НАДРУКАВАНУЮ Ў №103 2017 ГОДА

**Па гарызанталі:** 1.Бульба. 5.Святкі. 10.Калядоўнічкі. 11.Рана. 12.Серпанцін. 13.Гяур. 15.Лешч. 16.Дзед. 17.Сена. 18.Коні. 19.Верш. 21.Лета. 22.Каза. 23.Аляксандр. 28.Узор. 30.Сонцастаянне. 31.Ягорка. 32.Зімоўе.

**Па вертыкалі:** 2.Уран. 3.Букле. 4.Дзяга. 6.Ваўкі. 7.Куча. 8.Карагод. 9.Лісічка. 14.Радзіма. 15.Лесавік. 18.Кілбаса. 20.Шчадрэц. 24.Лясок. 25.Свята. 26.Дзеці. 27.Снег. 29.Зліў.

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 02.01.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 340 экз. Заказ № 150.